

***Творчасць наваполацкага літаратара і журналіста, сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў Юрася Васільевіча Касцюка адметна сваёй грунтоўнасцю, дасканаласцю, глыбокім зместам і сапраўднымі пачуццямі. Настрой яго душы самы розны і неабыякавы. Падуладныя яму гумар і сатыра. Асноўны лейтматыў яго паэзіі – тэма любові да сваёй спадчыны і кахання да жанчыны з яркімі вобразамі. Асабліва замілавана і шчыра гучыць любоўная лірыка паэта. Своеасаблівыя фарбы набывае яго пейзажная лірыка. Душэўна, шчымліва і балюча напісаны ім творы на тэму Вялікай Айчыннай вайны. Неабыякавы аўтар і да сённяшняга лёсу сваёй краіны, роднай матчынай мовы.***

***Гэтая кніга знаёміць чытача з паэзіяй цікавага і таленавітага чалавека і адкрывае для яго прыгажосць няўрымслівай душы і цудоўных вершаў Юрася Касцюка. Назва кнігі “Пат” – вядомы шахматны тэрмін.***

## ПРЫГАЖОСЦЬ ЯГО ДУШЫ І ВЕРШАЎ

6 мая 1943 года ў дружнай і працоўнай сям'і Касцюкоў нарадзіўся хлопчык, які сам сабе выбраў імя – Юрка, як адзначыў бацюшка, таму што нарадзіўся на Юр'еў дзень. Дзяцінства яго праходзіла ў найпрыгажэйшым краі нашага Прыдзвіння – Плісе. Возера Пліса, рэчка Мнюта, узвышшы, бор Кужэльнік, гарадзішча 1X-X1 вякоў – усё гэта захапляла і ўражвала маленькага хлопчыка, а затым юнца Юрася Касцюка. Жывапісныя краявіды ўражлівалі душу будучага літаратара, які заўсёды насіў з сабой за пазухай альбом для малявання і сшытак для вершаў, а аловак беражліва хаваў у левую кішэню куртачкі.

У школу Юрась пайшоў, умеючы добра чытаць і пісаць. Асабліва захапілі яго ўрокі па геаграфіі, гісторыі, літаратуры, якія абуджалі мары пра вандроўкі, што знайшло адбітак у яго творчасці. Першы верш Юрася быў надрукаваны ў газеце "Зорька", калі ён вучыўся ў 4-м класе. Не ўсе адразу паверылі, што верш хлопчык напісаў самастойна. Піянерважатая сказала, што спісаў. Грунтоўным аргументам было тое, што верш прысвячаўся Дворнаму масту, які быў толькі ў Плісе. Гэты выпадак надоўга адбіў ахвоту ў хлопца паказваць, альбо друкаваць свае вершы, але не адбіў жаданне іх пісаць. Быў, праўда, у школьным жыцці Юрася выпадак, які дапамог "адкупіцца" вершам ад "двойкі" па трыганаметрыі...

Закончыўшы школу, Юрась Касцюк паступіў на мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута, але вучоба была перарвана прызывам у Армію. Апрануты ў форму салдата, Юрась знайшоў для сябе новыя тэмы – армейскія. Ён надрукаваў у газеце "На страже Октября" верш "Мы обыкновенные" (трэба адзначыць, што першыя вершы паэта былі на рускай мове). Потым з'явіліся яго вершы ў газеце "Во славу Родины". Тры гады службы прайшлі ў горадзе Мінску. Армія ў той час, пры былым Саюзе, была шматнацыянальная. Часта салдаты падтрунвалі над Юрасём і іншымі беларусамі, асабліва рэзала яго слых слова "бульбаш". І ён цвёрда вырашыў пісаць і размаўляць на сваёй мове, каб паказаць, што яна варта быць, і ніколькі не горшая за іншыя мовы. І з'явіліся вершы на роднай мове, з новым зместам, некаторыя з іх былі надрукаваны ў газеце "Чырвоная змена". Пазней былі напісаны шматлікія апавяданні, замалёўкі, артыкулы, якія знайшлі месца на старонках друкаваных СМІ, у мастацкіх зборніках.

Дэмабілізаваўшыся, Юрась прыехаў у Браслаў. У першыя дні жыцця ў гэтым горадзе ён напісаў артыкул на тэму маралі і занёс яго ў “Браслаўскую звязду”. Не губляючы часу, адправіўся ў Віцебск, каб перавесціся на завочнае аддзяленне. Вярнуўшыся з Віцебска, пачуў, што запрашаюць у рэдакцыю і ў міліцыю. Спачатку заглянуў у рэдакцыю мясцовай газеты, дзе сустрэў яго галоўны рэдактар, які запрасіў працаваць у рэдакцыі, пры гэтым добра ацаніўшы напісаны матэрыял. Юрась даў згоду, але яго яшчэ чакалі ў міліцыі. Начальнік міліцыі таксама прапанаваў працаваць у іх. Адказ Юрася быў такім: “А я ўжо працую ў газеце”. Так пачалася працоўная дзейнасць маладога хлопца.

Але рамантыка клікала ў дарогу. Хутка Юрась паехаў на цэліну да бацькоў, якія ўжо некалькі гадоў там працавалі. Не так многа прайшло часу і ён засумаваў па родных мясцінах, па блакітных азёрах, па барах і лясах, таму што ў вочы кідаўся адзін голы стэп. Вярнуўшыся з цаліны, Юрась забраў дакументы з Віцебскага педінстытута і паступіў на завочнае аддзяленне журфака БДУ.

У той час на Полацкай зямлі набірала моц будоўля Нафтаграда. У 1966 годзе Юрась уладкаваўся бетоншчыкам на завод “ЖБВ”. Праца была цяжкай і шкоднай, з рызыкай для здароўя. Хлопец, як і іншая моладзь, працаваў добрасумленна і старанна. Вершы заўсёды былі побач. Кватараваў у Полацку, і, пакуль ехаў на працу, нараджаліся паэтычныя радкі. Хутка яго вершы з’явіліся на старонках мясцовых газет, працягваў друкавацца і ў “Чырвонай змене”.

Калі 1 студзеня 1967 года выйшаў першы нумар гарадской газеты “Хімік”, Юрась Касцюк пачаў друкавацца ў газеце. І тут былі не толькі вершы, але і яго замалёўкі пра справы завода і завадчан. У гэтым жа годзе Юрась Васільевіч удзельнічаў ва Ўсесаюзным фестывалі мастацкай творчасці, прысвечаным 50-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі, з вершам “Бульбонія”. Стаў лаўрэатам фестывалю. Наперадзе была яшчэ адна перамога. У 1969 годзе – лаўрэат Ўсесаюзнага конкурсу аматарскіх кінастудый за сцэнарый да дакументальнай кінастужкі “Вёска Тапары”.

У 1971 годзе першы рэдактар “Хіміка” Уладзімір Трафімавіч Сімураў, добра ацэньваючы матэрыялы для газеты, запрасіў Юрася Васільевіча працаваць у газету. З таго часу журналістыка стала яго жыццём. Тры гады ён выходзіў са сваімі рэпартажамі, інтэрв’ю, радыёнарысамі на гарадское радыё, якое знаходзілася ў адным будынку з “Хімікам”. Гучалі матэрыялы Касцюка і на абласным,

рэспубліканскім радыё. У 1974 годзе ён быў пераведзены ў штат "Хіміка" карэспандэнтам прамысловага аддзялення, праз тры месяцы – загадчык аддзела пісьмаў. Далей, праз год, – загадчык прамысловага аддзела. Потым быў прызначаны намеснікам рэдактара. Адначасова на працягу дзесяці гадоў кіраваў літаратурным аб'яднаннем "Крыніцы".

У 1983 годзе Юрась Касцюк быў накіраваны на вучобу ў Вышэйшую партыйную школу. Два гады ён вучыўся у Мінску і не спыняўся пісаць для рэспубліканскага радыё, часопіса "Вожык", газеты "Звязда". У 1985 годзе яго зноў сустракае Навапалацк, дзе давялося папрацаваць у гаркаме КПБ. Потым быў накіраваны ў Дубровінскі раён рэдактарам газеты "Дняпроўская праўда". За пяць гадоў кіравання змястоўна і цікава вёў гістарычную старонку "Спадчына", сатырычна-гумарыстычную старонку "Прыёмная Пракопа Прачуханца" і літаратурную старонку "Крылы" (трэба адзначыць, што Юрась Васільевіч адначасова арганізаваў пры газеце літаратурнае аб'яднанне "Крылы"). Усё гэта вельмі зацікавіла чытачоў не толькі Дубровінскага раёна, а і суседняга – Аршанскага. Наклад газеты ўзрос амаль у два разы.

У 1989 годзе, перажыўшы інфаркт, Юрась Васільевіч, па запрашэнню парткама завода "Вымяральнік", вярнуўся ў Навапалацк, і арганізаваў выпуск завадской газеты "Наша трыбуна". Знайшоў творчыя сілы, каб выпускаць літаратурную старонку, застаючыся верным сабе і сваім прынцыпам. На жаль, у гэты час пайшоў заўчасна ад нас таленавіты літаратар і журналіст Міхась Барэйша, які быў намеснікам рэдактара полацкай газеты "Сцяг камунізму". Рэдактар газеты Пятро Васільевіч Кавалеўскі запрасіў Юрася Васільевіча на гэтую пасаду. Адначасова ён стаў і старшынёй літаратурнага аб'яднання "Наддзвінне", якое пад кіраўніцтвам Касцюка адтрымала званне "народны калектыў".

Калі ў Навапалацку арганізавалася "Новая газета", Юрась Касцюк дапамагаў у яе станаўленні і некаторы час працаваў намеснікам рэдактара. Але, як толькі вызвалілася месца адказнага выпускаючага групы райгазет, што друкуюцца ў Навапалацкай друкарні, упраўленне па друку аблвыканкама перавяло яго на гэтую пасаду. Зноў ён апынуўся ў "Хіміку". З пасады рэдактара аддзела сацыяльных пытанняў ён пайшоў на пенсію, але яшчэ некалькі гадоў працягваў працаваць у газеце, да яе закрыцця.

Сёння Юрась Васільевіч Касцюк у самай гушчы літаратурнага жыцця Навапалацка. З'яўляецца літаратурным рэдактарам народнага

літратурна-музычнага аб'яднання-салона "Крылы". Ён не толькі працягвае пісаць мастацкія творы, а таксама дае добрыя парады сябрам па пяру. Часта выступае на розных мерапрыемствах. Жыццялюбства, добразычлівасць і гумар – асноўная рысы яго характару.

Творчасць наваполацкага літаратара і журналіста, сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў Юрася Васільевіча Касцюка адметна сваёй грунтоўнасцю, дасканаласцю, глыбокім зместам і сапраўднымі пачуццямі. Настрой яго душы самы розны і неабыякавы. Падуладныя яму гумар і сатыра. Асноўны лейтматыў яго паэзіі – тэма любові да сваёй спадчыны і кахання да жанчыны з яркімі вобразамі. Асабліва замілавана і шчыра гучыць любоўная лірыка паэта. Своеасаблівыя фарбы набывае яго пейзажная лірыка. Душэўна, шчымліва і балюча напісаны ім творы на тэму Вялікай Айчыннай вайны. Неабыякавы аўтар і да сённяшняга лёсу сваёй краіны, роднай матчынай мовы.

Гэтая кніга знаёміць чытача з паэзіяй цікавага і таленавітага чалавека і адкрывае для яго прыгажосць няўрымслівай душы і цудоўных вершаў Юрася Касцюка.

*Галіна Сташкевіч, кіраўнік наваполацкіх "Крылаў"*

***...Радзіма любая, малая,***
***Ды большай і няма здаецца***

## УСЁ СВАЁ

Так, ёсць у кожнага свой дом,
Дзе нарадзіўся і ўзрос,
І дзе так прагна піў нагбом,
Усё, што ні падносіў лёс.

І ёсць у кожнага свой шлях
Наканаваны на жыццё.
Нясеш ім сэрца, нібы сцяг,
Каханне, шчасце, клін асцё.

І дадзен кожнаму адзін
Характар на ўвесь маршрут,
Няроўны, нібы рост лясін:
Той нібы сталь, а гэты – трут.

Але яднае ўсіх адно,
Святы закон, парыў адзіны –
Для нас усіх бацькоўскі дом –
Пачатак Матухны-Радзімы.

## МАЛАЯ РАДЗІМА

Ізноў сюды ахвотна еду,
У Плісу, роднае мястэчка,
Дзе чыстае, як слёзка, неба
І Мнюціца, дзяцінства рэчка.

Хаця даўно няма радзіны
На гэтай любай мне зямлі,
Імкнуся да малой радзімы,
Дзе годы лепшыя прайшлі.

Туман над возерам кужэльны
Бязважкі згортвае сувой,

І карабельны бор Кужэльнік
Адвечны спеў выводзіць свой.

Пяе, як маці, калыханку,
Ён на гаючай роднай мове,
Душу залечвае падранку
Бальзамам, што ў кожным слове.

Тут дыяментная, жывая
Раса на ўтравелай сцежцы...
Радзіма любая, малая,
Ды большай і няма здаецца.

## НАСТАЛЬГІЯ

Як мне паклікаць цябе хочацца,
Пара забаў, пара свавольств,
Калі нажом тупым варочацца
У душы пачне пакутны боль.
І захлынаешся у багне
Сяброўскіх крыўд, дзявочых здрад.
Тады яшчэ руплівей цягне
Аглоблі павярнуць назад,
Каб зноў, як некалі, па лужах –
Ах, дожджык, дожджык! Секані! –
Крычаць на горла ўсё прастуджана,
Мчаць на ляшчынавым кані!

## ПЛІШАНАМ

Дарагія мае плішане,
Незабыўныя землякі.
Век імкнецеся жыць у пашане –
Заспакоена – не з рукі.
Век імкнецеся, нібы Мнюта,
У свет нязведаны і далёкі.
Ды умоўнасці скінуўшы путы,
Не забудзьцеся пра вытокі,

Пра вось гэты куточак мілы,
Дзе закопана пупавіна.
Ён – крыніца жыццёвай сілы,
Ён – пачатак вялікай Радзімы.

**ПРАГА**

Гады ў горане жыцця
Імклівым полымем згараюць
І попелам незабыцця
На скроні густа асядаюць.

Мяне матае “шчодры” лёс
І паўстаюць перад вачамі:
Казахскі стэп, чукоцкі плёс,
Тайга з сівымі кедрачамі.

І моры спраў, мільёны слоў
Аблiччаў новых мільгаценне,
Ды школьных ўхвілі летуцення,
Успомніш вобразы сяброў.

І закарціць, як піць у спёку,
Як выраю праз акіян,
Убачыць Мнюту нешыроку,
Аблiччы родныя плішан.

**НА ЧУКОТЦЫ**

Хаты пасталі на ножках курыных
Свай, умарожаных у мерзлату,
А ў лімане, нібы балерыны,
Бялухі імкліва свідруюць ваду.

Нізкае сонца на сопку прысела:
Рашае скаціцца за грэбень ці не.
Цень расцягнуў сваё доўгае цела,
Зданню цікаўнай застыў у вакне.

Тундра прыціхла, нібы задрамала.
Ветрык-разведчык прайшоў па спіне –
Ён папярэднік імклівага шквала,
Што неўзабаве, як бомба, рване,

Хмары прыцісне да самага долу
І як авечак пагоніць гуртом…
Сэрца заные, захоча дадому –
Толькі за светам няблізкім мой дом.

## ЦЫМБАЛЫ

Цымбалы, цымбалы, цымбалы
У клубе цалінным звіняць.
Шчыруе музыка удалы,
Прыдзвінскія песні гучаць.

Хоць люты у стэпе лютуе,
На сэрца дыхнула цяплом
І бачу, як Мнюта віруе,
На беразе у сосніку дом.

І чуецца шэлест лістоты,
І клёкат высокі бусла
Гарохам апаў на гароды
Майго дарагога сяла.

Танцуе буран ашалела
Па стэпе імпэтны капрыз…
Каб ў сэрцы зусім пацяплела,
Зямеля, сыграй нам на біс!

## РОДНАЙ ШКОЛЕ

Школа родненькая, вітаю,
Праз дзесяткі з хвастом гадоў.
Сёння ў госці к табе завітала,

Ды не ў госці, а проста дамоў.

Так, дамоў, бо ты наш адвечны
Храм вучобы, духоўнасці храм,
Што жыве ў нашых сэрцах вечна,
Дзе так многа настаўніцаў-мам.

І хоць мы ўжо дзядулі, бабулі
І маршчынкі адзначылі твар,
Тут навечна мы прыгарнулі
Да грудзей пал юначых мар.

Як жа, школа радзімая, рады мы,
Што ў Плісе сабрала нас
Пад крылом малое радзімы
У адзіны і дружны клас!

## СЯЛО

За сінімі ў дымцы лясамі,
За узбухлымі венамі-рэкамі,
За зморшчыкамі-ярамі,
Дзе босы я бегаў некалі,
Возера, нібы вока,
З вейкамі чаратоў,
Глядзіць-выглядае здалёку
Вырай сваіх сыноў.
Сляды іхніх ног не астылі,
Снягамі не замяло.
Начамі зімовымі стылымі
Сумуе па іх сяло.
Гулялі паміж хацін
Сябры мае: Валікі, Юзікі –
Ды адарваліся ад родных мясцін,
Як ад сарочкі гузікі.
Сумам адвечным матулі
За поўнач свеціць акно:
Кладуцца радкі-крывулі –
Сыну, у горад, пісьмо…

## ДА СЯБРОЎ

Сябры, спляцем мазолістыя рукі
І нас нішто не зрушыць ні на крок.
Статут сяброўства, нібы “аз” і “букі”,
Мы ведаем да кропкі на зубок.

Ў салдацкіх ботах, кірзавых, каваных,
За годы службы столькі мы прайшлі,
Што мы б маглі злічыць мерыдыяны
І паралелі ўсе на усёй зямлі.

Салдацкі строй, парадны і паходны,
Вучыў дзяліць па-брацку між сабой
Скупое шчасце, холад і нягоды…
Мы і сягоння той адзіны строй!

Мы, як штодня, і сёння ў паходзе.
Не пакідаем першых рубяжоў
І мае кожны па ўзнагародзе –
Вышэйшай пробы бронзу мазалёў.

## СУМНЫ ВЕРШ

Адыходзяць мае плішане
У вечныя іх дамы,
У сасоннік, з якога мы
Казлякі цягалі кашамі.

Прыедзеш чарговы раз –
Пашырыўся “вечны горад”.
Падзеліш з суседам гора,
Раздзеліш самотны час.

Суцешыш – усе там будем –
Так лёсам наканавана.
На свеце на тым нірвана
Будзе гаротным людзям.

## У ВЫМЕРЛАЙ ВЁСЦЫ

У вёсцы ўжо не гнездзяцца буслы
І немаўлят па хатах не разносяць.
І пухнуць вушы ад загуслай нематы,
Жывога гуку, як збавення, просяць.

Забіты вокны дошкамі накрыж,
Забіты так жа і глухія дзверы.
Цвілы калодзеж болей не рыпіць
Заржаўленым суставам ад асвера.

Апошняя бабулька адышла
Пад сосны на закінутым пагосце.
На градах, што абхаджвала яна,
Буяе лебяда ў поўным росце.

Сюды на Тройцу з’едзецца радня,
Каб памянуць, хто адышоў навек,
І болей год не будзе нават дня,
Каб тут жывы сустрэўся чалавек.

Прыедуць, ля магілак пасядзяць,
Падымуць чаркі з самаробнай горкай…
Буслы ўвысі засмужанай ляцяць,
Ўдалечыні ад сумнага пагорка.

* * *

*Памяці маёй бабулі*
*Грыга Вольгі Іванаўны*

Галлём нагружаныя сані,
Мароз кусае лютым зверам
І снег рыпіць пад палазамі,
Нібы нямазаныя дзверы.
Прамёрзшы ў костку над ракою
Звіняць галіны ніцых лоз.
Упарта цягнуць санкі двое,
Каб з дому выселіць мароз.

Старая ўперадзе кульгае,
За ёю коціцца хлапчук
І з усіх сіл дапамагае,
Рукамі ўпершыся ў сук.
А лёд як вухне пад нагамі –
Душа пакоціцца ў пяты!
– Бабуля, напішу я маме,
Каб хутка ехала да хаты.
– Няхай адбудзе ўсю вярбоўку,
Глядзіш, заробіць грошай болей…
І зноў бярэцца за вяроўку,
Што рэжа рукі аж да болю.
…Бабуля сцішылась сівая,
Адпачывае ў зямлі,
А для мяне яна жывая
Дасюль вязе сярод зімы
Галлём нагружаныя сані,
Мароз кусае лютым зверам
І снег рыпіць пад палазамі,
Нібы нямазаныя дзверы.

## ПАКРУЧАСТАЕ ЖЫЦЦЁ

Жыццё бурліла. Не лічыў гадоў.
І дні лічыць, бывала, не спраўляўся.
Як піянер, заўсёды быў гатоў.
Куды хацеў, туды і адпраўляўся.
Стараўся зведаць болей як мага –
Па запавету тройчы раз вучыўся.
І кіламетраў змерана чарга –
Ад Буга да Анадыра прабіўся.
Казахаў бачыў, чукчаў і мардву,
З прыбалтамі браў чарку і рукаўся,
У Падмаскоўя прымінаў траву,
З хахламі, як мядзведзем барукаўся.
Пісаў, ляпіў і нават маляваў,
За праўду глоткі грыз і не здаваўся.
Любіў жыццё, ды і дзяўчат кахаў,
З самім сабой, як з ворагам змагаўся,

Не здрадзіць каб ні сябру, ні Радзіме
І не забыць ні мову, ні радню.
Мяне не раз за гэта моцна білі
І адкруціць гразілі галаву.
Як бачыце, нічога, ацалела,
Хоць пасівела, можа, да пары.
Мо, ад таго, што многага хацела
І лбом прабіць імкнулася муры.
Набіў нямала шышак-гузакоў,
Не даючыся, каб з гразёй мяшалі.
Залічвалі да племя дзівакоў,
А я звычайны – я плішанін.

## У ПЛІСЕ

Прылятаю, як пчолка да краскі,
За ўзяткам натхнення сюды,
За дзіцячай бабульчынай казкай,
За сівою касой лебяды.

Па сцяжынцы юнацтва зарослай
Пахаджу, пашукаю сляды.
Успамінаў прывідныя кросны
Уваскросшы расцягнуць гады.

Захмялею ад хвойных настояў
І сарокам на блізкім кусце,
Як слухачкам даволі прыстойным,
Стану вершы чытаць я свае.

А яны ў адказ застракочуць,
Нібы градам па шыбінах б’е.
Зразумей, што сказаць гэтым хочуць:
Ці то хваляць, ці ганяць цябе…

## У ДЗІСНЕ

Дзісна зліваецца з Дзвіной,
Струмені звоняць аб каменні
І завіваюць у сувой
Вякоў драбнюткія імгненні.
Стаю на беразе крутым.
Гляджу на сцёртыя валы:
Перада мной стагоддзяў дым
І я прад імі як малы
Асколак дробны крывічоў,
Што заблудзіўся у памкненнях –
Злучыць нязлучнасць берагоў,
Узняцца ўрэшце рэшт з каленяў!

## НАВАПОЛАЦКУ

Мяне сталіцы шумныя не вабяць,
Да віру іх не прыстасован я,
А тут цагліна кожная ў памяць
Умуравана часцінкаю жыцця,
Тут мной калона кожная ўзнята,
Пастаўлена трывала, на вякі,
А мне і сёння спраў багата –
Я з тых, імя каму будаўнікі.

## ВЕТЭРАНАМ НАФТАГРАДА

Валасоў нашых жоўтая медзь
Сівізной пачала пакрывацца,
Толькі мы – ні ў якую старэць!
Дружбакі, нам яшчэ па семнаццаць!
А на скронях хіба сівізна?
Гэта ж пыл, што курэў над шляхамі.
То трывожныя ночы без сна,
Дым махоркі – вайна з камарамі.
І дзесяткі гадоў за спіной.
Гарадскія, заводскія гмахі...

Толькі мы не старэем душой,
Усё такія ж у марах размахі.
Нам не трэба зацішных пасад,
Аб спачынку спакойным не дбаем.
Мы і сёння за наш Нафтаград
На пярэднім змагаемся краі!

***Я хачу для цябе адкрыць***
***Прыгажосць маёй роднай мовы...***

## РОДНАЕ СЛОВА

Іду наддзінскімі лясамі
Па звіву стромкіх берагоў.
Пад старажытнымі пластамі
Мне чутна рэха галасоў.

Як плёскат хваляў меладычны,
Як звон даспелых каласоў
Мне дорацЬ прашчуры-крывічы
Жывое зерне родных слоў.

Забаранялася царамі,
Ксяндзы, падпанкі і паны
Яго вытоптвалі нагамі,
На ім збівалі бізуны.

Яго гнаілі па астрогах
І пазбаўлялі ўсіх надзей –
Хадзіла слова па дарогах,
Жыло ў сэрцах у людзей.

То песняў зычны звон вясельны,
То змагароў за волю кліч
Лунаў над Нёмнам і Ясельдай
І хваляваў Дняпро і Пціч.

І вось жывучымі расткамі
Прабіта таўшчыня вякоў
І слова новымі радкамі
Кладзецца на паперу зноў.

## КАБ ЗМАГЛА

Я хачу для цябе адкрыць
Прыгажосць маёй роднай мовы,
Каб ты ведала, як баліць
Так адзіна патрэбнае слова.

Каб ты сэрцам адчуць змагла,
Як яно пульсуе ў жылах,
Колькі ў ім дабрыні і цяпла,
І пяшчоты, і дбайнай сілы,

Вышыні, прастору, святла,
Дыяментаў, а не паловы,
Каб на мове маёй змагла
Ты прамовіць чаканае слова.

* * *

Мы пішам усе высокім стылем
Пра рэчкі, вёскі і буслоў
І сыплем прыгаршчамі мілым
Бурштын зіхоткі родных слоў.

І захапляемся ўмельствам
Да слоўца слоўца падагнаць.
Зрабіць метафару цяпельцам
І рыфму жарсцю напаляць.

Адточваць строфы, нібы брытвы,
Каб сэрцы ранілі яны,
А трэба, як на поле бітвы,
Ззываці і біць ва ўсе званы!

Будзіць забыўшыхся, заснуўшых,
Зблудзіўшым накірунак даць.
У нігілізме патануўшых
Узвясці на нашай веры гаць.

І згуртаваць рады-шыхты,
Каб дружна рушыць напярод:

Набок манкурты – крочым мы,
Свядомы і жывы народ!

* * *

То поле льну ўсё ў блакіце,
То жыта коласам звініць…
Цымбалы звонкія, звініце,
Каб прагу сэрца наталіць.
Гучы, дуда, і плач, жалейка,
Апавядай, бруі крыніцай,
Як нарадзілася “Батлейка”,
А бацькам быў Ігнат Буйніцкі.

* * *

Пра ясны сонца узыход,
Абмыты хваляй плёс,
Калі пакутуе народ,
Ламаюць яго лёс
Пісаць я сёння не магу:
Да лірыкі хіба?
Хаця і ліру берагу –
Надыйдзе ёй пара.
Ну, а пакуль, цяпер, браты,
Нам песень нашых дамагацца,
Не закалыхваючых слых,
А заклікаючых яднацца!

## ДО ЗА МЯНЕ РАШАЦЬ

На часткі рвалі маю зямлю,
Маю душу на часткі рвалі:
То, каб служыў я каралю,
То, каб цару – патрабавалі.

То: “До касцёлу, галгане!”
То ў мураўёўку сілай гналі.
Усё вырашалі без мяне.
У беларуса не пыталі.

То ты паляк і каталік,
А то маскаль і праваслаўны.
Тут у паноў ёсць свой разлік
І ў маскалёў ненадта файны.

Ды хопіць за мяне рашаць,
Кудыісці і як маліцца!
Я сам рашу, што спавядаць,
У якім храме прычасціцца.

Бо я адзін, і Бог адзін –
Не польскі ён і ён не рускі.
І я хачу, слуга і сын,
З ім гаварыць па-
БЕ-ЛА-РУС-КУ!

## КАЛЯ ПОМНІКА СКАРЫНУ

Прыпыніцеся!
На вас глядзіць Скарына
Скрушна, запытальна і з жальбой.
І пытае: "Калі вас скарылі,
Што народ не стаўся сам сабой?
Я ўсё жыццё сваё стараўся:
Выдаваў і множыў першадрукі,
Каб народ свядомым заставаўся,
Беларусамі былі і прапраўнукі.
А цяпер гляджу і крыўдна дужа
За маіх нашчадкаў маладых
І за іх знявечаныя душы,
І за мову, што так рэжа слых...".
Прыпыніцеся!
Скарына вас пытае
І адказ пачуць жадае ён:
Ці ў галовах вашых ужо світае?
Ці праходзіць літаргічны сон?

## МАЛІТВА

Божа! Малю цябе аб адным,
Для сябе не прашу анічога, –
Абыдзіся па-боску з народам маім,
Зрабі, каб успомніў нябога –
Імёны продкаў слаўных сваіх
Ад прашчура Рагвалода.
Каб ён уцяміў – яго карані
Ад слыннага цягнуцца рода.
Памяць вярні маім землякам,
Гордасць і годнасць іх чалавечую,
Якую ўдалося бальшавікам
Пераляпіць на авечую.
Божа! Слова вярні крывічам –
Роднае, цёплае, зычнае!
Зрабі неўспрымальнымі к тым “речам”,
Што нашаму вуху нязвыклыя.
Божа! Прашу цябе аб адным,
Памагаць з усіх сіл вазьмуся, –
Зрабі, каб кожны на любай зямлі
Стаў сапраўды  БЕ-ЛА-РУ-САМ!

***Мне бацька ў спадчыну пакінуў...***
***Перамогу!..***

## МЫ – САЛДАТЫ

Жывыя кветкі
І зімой і ўлетку.
Спіс прозвішчаў
На шэрым камяні.
Нямыя сведкі...
Не!
Жывыя сведкі!
Паслухайце, гавораць з-пад зямлі:
– Мы мужчынскага роду,
А, значыць – салдаты.
Толькі мы не ў запасе,
У вечным страі.
Нашы сэрцы не з лёду.
Нашы сэрцы не з ваты.
Нашы сэрцы, як вашы,
Зусім не з брані.
І нічым не закрыты
Ад асколка і кулі,
Толькі кніжкай чырвонай,
Што ляжала прад імі.
Нашы сэрцы зарыты
Пад Смаленскам і Суяй,
Пад сабой іх схавалі руіны.
Нашы сэрцы жывыя
У расінках і лісці.
Ім адведзена месца
У ідучых вяках,
Бо свабодна Расія,
За якую калісьці
Крок апошні наперад
Мы ўпалі ў баях.

## МАНАЛОГ НЕВЯДОМАГА САЛДАТА

Чаго нам каштавала перамога?
Ды вельмі многа горкага, ліхога…
Нас палкаводцы ў баі вадзілі
Салдатамі-манетамі плацілі
За вышыню, што ў ворага адбілі,
За здадзены, затым узяты горад,
За ўдоў, сірот, галечу, холад, голад
За дзікай боллю скурчаныя твары,
За ненароджаных, няспраўджаныя мары,
За ўсё, што трэ’ было для перамогі,
І мы здзяйснялі за мяжой знямогі.
Мы ворага ў лясах і стэпах білі,
Здзяйснялі подзвігі і цуды мы тварылі…
Салютаў перамогі мы не чулі,
Бо вечным сном да гэтага паснулі.
Сваім жыццём вам волю здабылі,
Каб шчасна і свабодна вы жылі.

* * *

Гадавала матуля сыноў.
Гадавала без мужа, адна.
Па начах не дагледжвала сноў,
А сыноў адабрала вайна.

Засталіся для ўцехі матулі
Ад старэйшага – дуб на узмежку,
Ад малодшага – кусцік каліны,
Ды на картцы старой па ўсмешцы.

Засталіся на горкую памяць
Боты сшытыя сынам старэйшым,
І да гэтага дня моцна раняць
Сына меншага першыя вершы.

Кожны год, ад вайны, з дня у дзень,
Маці топча сцяжынку да дрэўцаў –
Не стамляецца ўдалеч глядзець:
Можа прыдуць яшчэ, можа вернуцца.

## ПРАРЫЎ

Памяць прыводзіць ветэрана сюды
І трывожыць яна, як саспелы нарыў.
Прад вачамі: з сябрамі ён малады,
Як у прорву кідаецца ў прарыў.

Скрозь вогненны смерч і свінцовы град,
Скрозь выбухаў гром і "Ура!", і "Маць..."
Ішлі на прарыў: "Нас не спыніш, гад!" –
З надзеяй прабіцца, паратунку дапяць.

Прарвалі блакады тугі абруч,
Ды многа палегла, як кажуць, касцьмі,
Каб мы трымаліся жыцця аберуч,
Па-людску жылі і, найперш, людзьмі...

Памяць прыводзіць ветэрана сюды,
Памяць баліць, як саспелы нарыў.

## ПЕРАМОЖНЫ ЗДЫМАК

А мне аб бацьку напамінак
З вайны мінулай фотаздымак.
Не грудзі – медалёвы рад,
Ён – пераможца, ён – салдат.
Шчаслівейшы з усіх людзей,
Напоўнены такіх надзей,
Адбітых на прыгожым твары,
З якімі, можа быць, Гагарын
Зямлю пабачыў першы раз
З касмічных невядомых трас.
Так, мне аб бацьку напамінак
Пары ваеннай фотаздымак,
Дзе бацька маладзей за сына
Стаіць на вуліцы Берліна,
Аглухшага ад кананады,
Ад зычнага "Ура!" раскатаў,
Што без напружання і трывогі

Гучала у гонар Перамогі...
Не! Не толькі картачку з Берліна
Мне бацька ў спадчыну пакінуў,
Але і тую Перамогу,
І ў жыццё праклаў дарогу.

***...Дзякуй Богу, прырода – не людзі,
Тут усё сваім ладам ідзе...***

## ХРАМ ПРЫРОДЫ

Ныраю ў лес, як у збавенне
Ад тэлебачання і кніг.
Тут вечны ключ майго натхнення
Сярод ствалоў, бы вартавых.

Ад дрэва к дрэву не лясун,
А пачуццё прыязні водзіць.
І чую я: карэнні дум
Ад сэрца цягнуцца к прыродзе.

## ЖАДАНАЯ ПАРА

Павольна крочу да задумных соснаў,
Тут цішыня, бы ў забытым храме.
Збурэлы ліст – раскоша пышных вёснаў
Бязгучна прасядае пад нагамі.

Нібыта пальцы згорнуты для ўдара,
Так дрэвы почкі сціснулі ў кулак,
Ды хутка роем кропель брызне хмара,
Раскоціць гром басок, як вурдалак.

Уздрыгне вольха. Зазвіняць падвескі.
І будзе ў звоне столькі навізны!..
Праз чэзлы ліст пpарэжуцца пралескі –
Жывыя вочы маладой вясны.

* * *

Красавік на двары гаспадарыць,
Ды мароз яшчэ, пан ягамосць,
Так знянацку навотмаш ударыць,
У размах улажыўшы ўсю злосць,

Што здаецца вясна і не прыйдзе,
І гальнём будзе гойдацца ясень,
А як сонейка вышай узыйдзе,
Дзед адразу хаваецца ў засень.

## ВЯСНА НА ЦАЛІНЕ

У незнаёмы стэп казахскі
Я трапіў ранняю вясной.
Буялі казачныя краскі
Небеларускаю красой.

Вакол цюльпанавы кілім
На неаглядны небакрай
І я, як згублены на ім, –
Не радуе і фарбаў грай.

Самота мне сціскала горла
Гарачай высахлай рукой.
Душу бы кіпцюрамі дзёрла,
Як кроў, высмоктвала спакой.

У гэтай неабсяжнай шыры
Я не знаходзіў сабе месца,
І жоравам імкнуўся ў вырай
Да берагоў, дзе Мнюта ўецца.

Ды каля выгаркі засохлай
(Абмылі талыя снягі)
Убачыў – на зямліцыволглай
Сінеюць дзіўна берагі.

Сусанкі, мілыя сусанкі,
Зямелькі роднай кветкі-дочкі,
На цаліне вясенняй з ранку
Раскрылі сінія званочкі.

Не, я вас з радасці не рваў,
А апусціўся на калені

І як дзівосы разглядаў,
І дзячыў гэтыя імгненнні.

## ЦАЛІНА

Стэп, нібы тая патэльня –
Роўнядзь, гарачыня.
І смажыцць у гэтай пякельні
Асмяглага сонца жаўток,
Пудлівы, як цень, пустэльнік,
Выгаралы сурок.

## ПЕРШАЯ ПРЫКМЕТА

Лета ў самым разгары.
Сонца прастрэльвае шаты.
На лузе красак пажары.
Дзень, нібы бусел, цыбаты.

А па бярозавым гаі
Восень крадзецца лісам
І раней часу ліняе –
Рыжым фарбуе лісце.

* * *

Набліжаецца восень
Спакваля, незаўважна.
У небе сумна-высокі
Жураўліны працяжнік.

Пацьмянелай манетай
Ледзь праблісквае поўня,
І ў дагонку за летам
На зманлівы поўдзень

Цеплыня павярнула,
Паплыла туманамі.

Мо, кастры шугалі
Лісты над лясамі.

Накацілася восень,
Пакацілася далей
І пагод зменных восем
З хіжай кайстры дастала.

Прах лістоў адгарэлых
Нам аб ёй напамінак…
На лугах азалелых
Сівізной лёг зазімак.

* * *

Шпакі збіраюцца ў чароды
І над палямі хмарай шэрай
Спрабуюць сілы прад адлётам,
Бо шлях не блізкі трэба мераць.

То, адляпіўшы роем ліпу,
Так, што нябачна і лістоты,
Рашаюць дружна, аж да хрыпу,
Пытанні выраю. Турботы.

Турботы, і казаць не трэба,
Бо моладзь вопыту не мае,
А ў восень непагода неба
Да далягляду абкладае.

Тут трэба вопыт, трэба сіла,
Каб змераць шлях у два канцы
І зноў у край вярнуцца мілы
З усмешкай першаю вясны.

Таму і радзяцца так доўга
І над палямі ходзяць хмарай.
І не кранулі ў шлях той доўгі,
А ўжо дадому мкнуцца ў марах.

## ВОСЕНЬСКІЯ МАТЫВЫ

Поле пад вожык пастрыжана –
Соннае, колкае, рыжае.
Ні галасоў, ні матораў,
Якія гучалі 'шчэ учора.

Неба самотнага сферу
Абмахвае жораваў веер,
І у бурыя выгаркі-нішы
Журботныя кідае клічы.

Лес у прадзімовай агоніі
Гарыць напалову аголены.
Поле пад вожык пастрыжана –
Сумнае, колкае, рыжае.

## НАСТРОЙ

Плывуць высокія аблокі.
Іх клінам рэжуць журавы,
І плач журботны і высокі
Слязой сцякае на бары.
І западае мне ў сэрца
Ільдзінкай, што халодзіць кроў,
З якою мне не адагрэцца
Ля рыжых восеньскіх кастроў.

* * *

Якая зацяжная восень –
Ужо даўно не залатая.
Здаецца, за лістотай з соснаў
Усе іголкі паздзірае,
Каб наваколле цьмяна-шэрым
Халодна-колкім скрозь было,
Каб сіратою азалелым
Дрыжэла мокрае сяло.
Карціць старой дажджом і золлю

Усіх да ніткі абадраць,
Пусціць па свеце ніцай голлю
Сабе збавенне жабраваць.

Ты, восень, гэтую мітрэнгу
Перацягнула, як пятлю.
Усё жывое просіць снегу,
Як абнаўлення на зямлю.

**ПЕРШЫ СНЕГ**

Не пух таполі ціхім рухам,
А першы снег, зімовы дар,
Лаўлю ў мазолістыя рукі,
Як зерні першыя – папар.

І цішыня, спакой на сэрцы,
Хоць снег звініць, як срэбны смех...
А восень мусіла памерці,
Каб нарадзіўся гэты снег.

* * *

Нечакана нахлынуў вечар,
Ахінуў сінім змрокам палі,
Як хрышчэнскаю ноччу свечкі,
Зоркі цугам у высь паплылі.

А марозец танклявы, юны
(Мо, таму так за плечы бярэ?)
Выцінае на лужынах струны,
Хоць ты польку скачы на дварэ.

А на наша ваконнае шкло
З батанічнага сада, ці з Індыі,
Столькі дзіўных раслін перайшло...
Нашы дрэвы схаваліся у інеі.

* * *

Ну, што тварыцца? Што тварыцца?
Пад Новы год зіма дажджыцца
І толькі лужы пад нагамі
Чарнеюць чорнымі кругамі,
Ды вецер мокры нудна свішча,
Галіны мокрыя калыша.
І кожны з гэтакай нагоды
Кляне нялюдскую пагоду
І гэта дзікае бясснежжа,
Па-наську, смачна і бязмежна!

**ЗІМОВАЕ**

На дрэвах пухам мяккім шэрань.
Прымерзла воблака да неба
І сонца цягнецца, як дэраш
За ім, нібы за лустай хлеба.

І, як сярэбраныя шлемы
Маіх далёкіх сваякоў,
Капяшкі зложанага сена
Вартуюць зімні сон лугоў.

* * *

Дрэвы, з пят па галовы,
Захуталіся ў пух.
Сівер, мароз суровы –
Аж зацінае дух.

Ноччу з суседняга бору,
Беглым, з усіх ствалоў
Страляе. Збівае зоры,
Як яблыкі, з неба далоў.

## ШЧОДРАЯ

Зіма аддае даўгі
Марозамі і снягамі.
Няйдзе у свае берагі,
Жорстка шуткуе з намі.
То манкі развяжа мяшок
І жменькамі сыпле навотмаш.
Яхідны такі смяшок…
Нам ён, скажыце, навошта?
То кіне траскун-мароз
У ярасную атаку,
Што высунуць з хаты нос
Боязна і сабаку.
То ў наступ пашле мяцель –
Жанкам папсаваць макіяж…
Ды чую – вясна ідзе
Зімовы спыніць сабатаж.

* * *

Мароз прыгарнуў адлігу
З пяшчотаю да сябе
І таяў прад ёй пакрыху,
Слязамі сцякаў па страсе.

Пад вечар, сабраўшы сілы,
Адкрыў ёй скляпенні душы…
Засталісь ад колішняй мілай
На ўстрэшках звінець ледзяшы.

* * *

Мора Карскае нізкі бераг
Языком зледзянелым ліжа.
На спіне, бы мядзведзяў белых,
Незлічоныя льдзіны калыша.

Сонца нізкае зыркім вокам
Аглядае тундры абшары.
Адпалалі ў небе высокім

Ўжо паўночнага ззяння пажары.

Адпалалі, вясна настала,
Гоніць з лежбішчаў гурбы снягоў
І яны, нібы россып апала,
Гуртам коцяцца да берагоў.

**СВАІМ ЛАДАМ**

А прыходзяць яны без спроса
І дакладна ў сваю пару.
Рассыпаюць то снег, то росы,
То расцягваюць сеткі дажджу.

Іх чарга зусім не людская –
Ані даўкі, ні сваркі няма,
І не ўціснецца следам за маем
У калейку сівая зіма.

Тут ніякі ўладны чынуша
Не ўсталюе парадак свой,
Не развесіць на вербе ігрушы,
Не заслоніць сонца сабой.

Ды і восень за хабар не купіць
Раней лета месца ў чарзе...
Дзякуй Богу, прырода – не людзі,
Тут усё сваім ладам ідзе.

***Ты мне паэзію вярнула***
***Не толькі вершаў, а жыцця...***

**ПЕРШАЕ КАХАННЕ**

Кажуць, праходзіць яно, забываецца
Ціха за даўнасцю.
І не каханнем зусім называецца,
А закаханасцю.

Кажуць, з гадамі яно астывае,
Бы ў восень вада,
У сэрцы ўзмужнелым не пакідае
Нават сляда.

Кажуць, упэўніць імкнуцца старанна,
Ды хопіць хлусіць!
З цягам гадоў, нібы старая рана,
Усё болей баліць.

Болей баліць і часцей нам здаецца
Выстылым раннем:
Толькі яно з поўным правам завецца
Першым каханнем.

Самаю чыстай і самай узнёслай
Сэрца праявай,
І не астыць яму зімамі-вёснамі
Выцеклай лавай.

* * *

Прыходзіць першае каханне
Да нас пад школьныя званкі,
Так нечакана, нібы ранне,
Кранецца промнем да шчакі.

І сэрца бомкае ў грудзі
Так гулка, нібы гэта звон!

І прыгажэй здаюцца людзі,
Салодкім – першы той палон!

## НАДЗЕЯ

Колькі кружыла-вірыла падзей:
Год завіруха.
Колькі успыхвала, гасла надзей:
Водблеск і скруха.

Колькі мільгала абліччаў вакол
Сцішана-прэсных…
Лісце, снягі і залеву на дол
Непагадзь трэсла.

Сонца сушыла і пляжыў мароз
Сіні, як кобальт.
Так і цягнуў бы бязрадасны воз,
Нібы той робат,

І не спяліў бы ні мар, ні надзей
Згінуўшых роем:
У горадзе шумным між тысяч людзей
Жыў бы ізгоем.

Толькі аднойчы захмараны лёс
Як спатыкнуўся,
Сцішыў навалу з высокіх нябёс,
Мне ўсміхнуўся:

Так неспадзеўкі, што сам не чакаў,
Здзейсніў падзею –
Мне, як збавенне, насустрач паслаў
Надзю-Надзею.

* * *

Сказаць, што я цябе кахаю,
Засведчыць – вымавіў не тое,

Бо я цябе абагаўляю,
А гэта пачуццё святое.
Яно мне дадзена ад Бога
І запавет: ім даражыць!
Няма мне болей дарагога,
На час, наканаваны жыць!

* * *

У поўтвара сінія вочы,
Як на карцінах Васняцова.
Твар малады дзявочы,
Выразны, як родная мова.

Якія тонкія бровы!
Ўпіваюцца ў вочы, як стрэлы.
Румянец пяшчотны і кволы.
Рот выразны і смелы.

Плечы яшчэ вуглаватыя.
Фігурка не акруглілася,
Ды хутка ўжо пойдуць сваты,
Глядзі ж, каб не памылілася.

## ЧЫСТАЕ

Хачу, каб волас твой застаўся
На прыўзнятым каўняры.
Хачу, каб голас твой здаваўся
Ад спеваў птушак у бары.

Хачу з крыніц вачэй напіцца
І адагрэцца каля вуснаў.
І адыйсці, і не забыцца,
І зноў прыйсці не са спакусай,

А проста ў вочы паглядзець
І дакрануцца да шчакі,
Ад палкіх мрояў халадзець…

З табою – хоць на край зямлі.

А ў час самотны развітання
Адкінуць смутку шэры клунак,
Нясці на вуснах ад спаткання
Гарачы, шчыры пацалунак.

* * *

Прамільгнула – іскрысты балід,
Асляпіла і апякла.
І душа несціхана баліць
Без твайго зіхаткога святла,
Што лучылі не толькі зрачкі,
А і ўсмешка, што ў вуснах цвіла
Самай гожай на свеце дачкі,
Што як шчасцейка паўз праплыла.
Прамільгнула, імгненны балід,
І пакінула вогненны след...
І ніхто не адкажа, калі
Ён патухне ў адвечнай імгле.
Прамільгнула, пакінула след
На душы, як на мяккай раллі...
І насіць мне яго столькі лет,
Колькі жыць і хадзіць па зямлі.

* * *

Ты бачыш, я баюся слоў:
"Каханая, кахаю".
Я проста зноў і зноў
Цябе абагаўляю.
Кажу: "Ты неабходная,
Патрэбней за паветра,
Душу маю свабодную
Узяла да самых нетраў".
Я не магу не бачыць
Хоць міг, цябе адзіная.
Мяне не перайначыць
У гэтым, і не дзіва,

Бо неўчым памыліцца
І сэнс тут не схаваны –
Мне на цябе маліцца
Жыццём наканавана.

* * *

А мне ніяк не наглядзецца
На твой бясконца вабны твар:
Ці ён сур'ёзны, ці смяецца,
Або нясе адбіткі мар,
Такіх няўлоўных і высокіх,
(У іх і месца мне няма),
Хаця ты блізка, ды далёка
Відочна памяць завяла.
І хай сабе, я зачарован
Тваёй узнёсласцю такой...
І ў марах сам кірую човен,
А ў чоўне толькі мы з табой.

* * *

Твае пажадлівыя губы,
Вачэй агністыя крыніцы
На міг адзін хачу прыгубіць,
Каб на жыццё не наталіцца,
Не збыцца ад салодкай смагі
Мне рысы дарагія бачыць,
Глядзець з адданаю ўвагай,
Жаданне кожнае прадбачыць.
Каб кожны дзень гарэць ад смагі,
І ў слодыч піць, і каб яна
Не пазбаўляла жаднай прагі –
Дапіць да кропелькі, да дна!

* * *

Ні сваімі вачамі-вішнямі,
Ні ўсмешкай спакусна салодкаю,
Ні рукамі ласкава-ўвішнымі,

Ні лятуча-прывабнай паходкай,
Ні грудзей, ні клубоў абводамі
Ты не возмеш маёй свабоды.
Толькі ўбачыўшы шчырасць сэрца, –
І маё твайму адгукнецца.

* * *

О, колькі ў тваім абліччы
Жыццёвых зменлівых праяў:
То ясны дзень, нібы на Фіджы,
То смутак воблакам абняў,
То мудры одум набягае,
То лёгкі вэлюм цішыні
Прывабнасць твару адцяняе
І ўзнёсласць дзіўнай вышыні.
А то халодная сур'ёзнасць
Сталёвай хваляй прыліе
І прападае ўся набожнасць,
Што рысы лашчыла твае.
Хоць аскетызм, а хоць гарэзнасць
Гуляюць на абліччы хай,
Але малюся – спрэс пазбегнуць
Яго і скруха, і адчай.

## ТЫ

Ты бываеш лагоднай,
Як дзіцятка малы.
Ты бываеш халоднай,
Нібы ў Арктыцы льды.
Ты бываеш гарачай,
Бы ў пустыні пяскі.
Сябе мераш, няйначай,
На аршын залаты.
Ты бываеш харошай,
Як надвор'е ў маі.
Ты бываеш прыгожай,
Бы мадонна святая.

Ты бываеш і злоснай:
Ну ж, гарацЬ твае вочы!
Ты бываеш і млоснай,
Як паўднёвыя ночы.
Не за дзень, не за месяц
Я цябе распазнаў,
Мо таму сваё сэрца
Табе, гэткай, аддаў.

* * *

А я, нібы метэаролаг,
Што над прагнозам доўга б’ецца,
Хачу прыўзняць загадкі полаг,
Імкнуся, толькі не ўдаецца.
Знайсці прычын твайго настрою,
Граніцы паміж ясна-хмарна.
Ці пад зямной яна карою,
Ці так высока – мкнуцца марна.
Таму трапляю неўпапад
Ізноў пакутую начамі,
Што леднікoвы вадаспад
Сцяною вырас паміж намі,
Што зноўку чорныя маланкі
Тваіх вачэй сякуць душу,
І словы, слабыя падранкі,
На ўзлёце глухнуць, хоць крычу.

* * *

Я раўную цябе, раўную,
Да пякоткі ў сэрцы балючым.
За табою паглядам палюю,
Да супернікаў помстай наўючаны.
Каб мінулых вякоў пячатку
Не пачалі мы забывацца,
Я б у твар ім шпурнуў пальчатку
Патрабуючы сатысфакцыі!

* * *

Перад тваёю прыгажосцю
Нямею, стыну ў захапленні,
І быццам перад храмам боскім,
Гатоў упасці на калені.

“Дзівак” – ты скажаш, – “Недарэка,
Навошта мне твае прызнанні...”
Я адкажу, што гэта ведаў, –
Ты мне і шчасце, й пакаранне.

**ТВАЕ ДАЛОНІ**

Як у хаце матулі, у далонях тваіх
Майму сэрцу ўтульна і звыкла.
Як у хаце матулі, яно за дваіх –
І за сум, і за радасць адказваць прывыкла.

Цеплыню і пяшчоту далоняў тваіх,
Нібы крылы акрэсленай мары,
Адчуваю спляценнем нейронаў усіх,
А не толькі ўспыхнуўшым тварам.

Як у казцы чароўнай, у далонях тваіх
Здатны я на ўсялякія цуды.
Як у казцы чароўнай, у далонях тваіх
Я не бачу мяжы перамогі і згубы.

І таму мне далоняў тваіх цеплыня
Так патрэбна, як сонца на небе,
Як зярнятам даспелым – пасцеля-ралля,
Як жывіцельны дождажык – асмяжанай глебе.

* * *

Твае рукі пяшчотна-чароўныя,
Твае вусны пажадліва-сквапныя,
Твае вочы крынічанькі поўныя,
Пекнатою іскрыстай прывабныя.

Мне з табою вусцішна і хораша,
Нібы дома пасля падарожжа,
А на сэрцы ўсё ж прысмак горычы:
Нас чакае ўжо раздарожжа.

Ну і хай сабе раздарожжа,
Непазбежнае развітанне…
Будзем памятаць найдарожшае
Незабыўнае наша спатканне.

* * *

Я анёлам лічу цябе,
Хаця ты са звычайнай плоці.
Толькі ў гэтым прызнацца сабе
І язык не павернецца ў роце.

Не павернецца. Не магу.
Натуральнае адвяргаю.
Яркай краскаю на мурагу,
Я цябе ўспрымаю.

А паэзія зрэдку ў жыцці.
Проза большасцю, зачастую…
Табе крыж жаноцкі нясці,
А я, бачыш, ідэ-алі-зую!

* * *

Прыгажосцю заўжды захапляліся,
Пакланяліся.
Ты таксама прыгожая,
Гожая.
З пекнай вабнасцю заручоная,
Утанчоная.
У цябе паклоннікаў мора.
Мне на гора.
Што я з гэтым, скажы мне, зраблю
Ў моры крапля?

Непрыкметны ў ім растваруся.
Не баюся.
Туманом падымуся ў аблокі
Высока.
І сняжынкаю, заўтра, ці сёння –
Табе ў далоні.
Ад тваёй цеплыні растану,
Не адстану,
Дастану,
Ледзь прыкметным, пяшчотным дотыкам,
Твайго сэрца, бы сон,
На досвітку.

* * *

Без вачэй тваіх цёмных
Мне і ў ясны дзень цёмна.
А без слова, што лашчыць вуха,
Мне і ў горадзе шумным глуха.

Без тваіх мае вусны смягнуць,
Тваіх рук мае рукі прагнуць,
І ў рытме адзіным біцца
Сэрца хоча, з тваім каб зліцца.

## САМОТНЫ ВЕЧАР

Ізноў-ку такі ж вечар на двары.
Хмурынка стыне,
Бязважкі снег ляціць на ліхтары
І ў цемры гіне.

Ізноў-ку такая ж ціша-цішыня
Звініць струною
І хочацца блукаць да дня
У ёй з табою.

Цябе няма, і тое ж да драбніц
Зусім не тое.

Самотны я, як дзіды тых званіц,
Што нада мною.

І гэты горад для мяне пусты,
Як дом забыты.
Прыйдзі, бо зможаш толькі ты
Вярнуць з нябыту

І вечар той, і горад ажывіць,
Напоўніць смехам.
Здаецца – голас твой гучыць
За гэтым снегам…

* * *

Неспакой агарнуў душу,
Ахапіў да самага дна.
Ты не думай, што я хлушу –
А ні кроплі маны няма.

Шчыміць сэрца нязвыклы сум,
Я стрымаць яго не магу.
Ліха то, ці звычайны тлум
Юшыць цішу маіх устояў,
Быццам неба страсае пярун,
Разбіваючы чашу спакою.

* * *

Любоў мая, давай з табой
Наноў вучыць чыстапісанне
І спасцігаць правапісанне,
Як берагчы сваё каханне,
Давай вучыць з табой.

З табою першы наш урок
Мы да канца не давучылі –
Любві падрэзалі мы крыллі
І надта жорстка прызямлілі…
Нам лёс дае паўтор-урок.

Нам лёс дае другую спробу
І нам з табой яна дарэчы.
Час раны многія падлечыў
І навучыў ацэньваць рэчы,
І даць рашыў другую спробу.

Ён вельмі літасціў да нас,
няўмольны Час.
І мы з табою не маем права
Любві высокую праяву
Ізноў, як некалі – ў забаву…
Нам даў апошні шанец Час

**ДАРОГА КАХАННЯ**

Пажоўклы ліст уздоўж абочын
І ночы чарнаты чарней,
А я адзін праз годы крочыў
За праўдаю тваіх вачэй.

Луналі вёсны, мёрзлі зімы
І леты млелі ад спякоты.
Здавалася, не хопіць сілы
Пераадолець адзіноту.

Але ў кожнае дарогі
Апошні метр ёсць на зямлі,
І праз сумненні і трывогі
На скрыжаванне мы прыйшлі.

**ДАРОГА**

Дарога гэта мне знаёма.
Па ёй магу, закрыўшы вочы,
І зноў дайсці да таго дому,
Дзе некалі прастойваў ночы.

І хоць асфальт пракладзен побач,
Тапчу я гэты пыльны шлях.
Магчыма сум, магчыма роспач
Гняздо звіваюць у грудзях.

А дом ужо той недалёка.
Пераадолеў бы ваганне –
Ды васілёк глядзіць з папрокам
З жытоў, як першае каханне.

І хоць бярэш ты, шлях, пачатак
З юнацтва, што табой прайшло, –
Не засталося хістскіх кладак,
Каб зноў вярнуцца у яго.

* * *

Рашаюсь – як з маста ў ваду –
І тэлефонны дыск кручу.
На радасць, альбо на бяду
Цябе пачуць хачу.
Пачуць цябе праз дваццаць
                    З лішкам
Імпэтных і крутых гадоў.
Бы найцікавейшую кніжку
Перачытаць ізноў.
Гудком трывогу памнажаю,
Што скажаш ты, што мне сказаць?
Але ў зацятасці чакаю:
Слухаўку ты ідзеш узяць...

* * *

Не, мы з табою не на схіле,
Шчэ не з гары.
Касцёр любві ў самай сіле,
Ярчэй гарыць.
І нам жыццё наканавала
Нямала год
Любіць і крочыць без прывала

І без нягод.
Усё ўверх, адзінай звязкай
І крок у крок.
Цярпеннем, шчырасцю і ласкай
Абходзіць рок.
Не, мы з табою не на схіле –
Пад'ём круты,
І нам лічыць з табою мілі
Гады, гады…

* * *

Нас, з той далёкай школьнай ростані,
Вялі раздзельныя шляхі:
То камяністыя, то росныя,
І ні адной на іх вяхі.
Таму і з тропу мы збіваліся
У цемнаце і туманах,
Аб чэрствасць, грубасць спатыкаліся:
Не ногі – душы ў сіняках.
Ды ўсё ж знайшлася кропка тая,
Дзе нашы сходзяцца шляхі
І лёсы, хопіць, паблукалі –
Як дзве зліваюцца ракі.

## ДАЎНЯЯ ПЕСНЯ

Песня хлыне нечакана
Хвалямі на плёс:
"Мой таварыш страдаўні,
Суд ты мой і лёс…"
І закружыць наша лета
Калаўрот падзей.
Забароны – з кручы ў Лету –
Ў сэрцы пал надзей.
Веснім выраем зляцяцца
З даўняй далі мроі
І, здаецца, мне семнаццаць
І табе не болей.

І над намі не плылі
Хмары год-разлук.
Неразлучна мы ішлі,
Не расплёўшы рук…
Супыні, спявачка, песню,
Сумных гамаў лёт.
Хай віруе ў сэрцы весні,
Бурны крыгаход.

**ЖОНАЧЦЫ**

Самая лагодная,
Самая пяшчотная,
Самая салодкая
Любая мая.
Хай гады ідуць,
Хай дажджы цякуць,
Хай вятры сякуць!
Ты ж, кахана, будзь
Вечна маладой,
Не лічы гадоў,
Прывячай сяброў,
Мужа – пагатоў.
І табе такой
Да астатку быць.
Ну, а мне з табой
Мірна, згодна жыць:
Мілаваць цябе,
Абдымаць цябе,
Дзеля спраў такіх
Не жалець сябе!

* * *

У перапоўненым вагоне
Сіпіць, парыпвае гармонік.
Па "дыпламату" лупяць карты.
З кішэні дзядзька выняў кварту.
Там цягнуць песню,

Тут другую,
Я тлуму гэтага не чую
І не адказваю суседу...
Бягу, ляту, ірву адлегласць.
І адчуваю сэрцам еднасць...
І шалік, купляны табой,
Мяне за шыю абдымае,
Нібы рука твая жывая.

**ПОЗНЯЕ КАХАННЕ**

Прыходзіць позняе каханне,
Як пасля слоты ясна ранне,
Што абяцае цеплыню.
Я ў гэтай стоенай мілосьці,
Бы ў асенняй прыгажосці,
Праяву кожную лаўлю:
Ледзь прыхаваную усмешку,
Бы краску сціплую на ўзмежку,
Што нечакана расцвіла.
І задумённасць без прычыны,
Нібыта вэлюм аблачыны,
На твар, што раптам наплыла.
Нібы ў халодным небе волкім
Мільгнулі зіхаткія зоркі,
Калі ты веі падняла.
Твой кожны рух, уздых і слова,
Бы ўратавальная замова,
З якой я зноўку ажываю,
І бабіным нібыта летам,
Цяплом пяшчотным абагрэты,
Я дзіва гэта праслаўляю.

* * *

Я ўдзячны, недаступная, табе
За тое, што жыву паэзіяй,
Што ты мне выпраменьваеш яе
Сляпуча-яркай ўспышкаю магнезіі.

Нічога, што святло тваё не мне
Накіравана поглядам іскрыстым,
Ўсёроўна, нат не бачачы цябе,
Яго лаўлю здалёку сэрцам чыстым.

* * *

Намалюй ёй верш і палажы
З словамі "адзіная", "кахаю".
Словы тыя, нібы муляжы,
Калі іх зачаста паўтараюць.

* * *

Ты мне паэзію вярнула
Не толькі вершаў, а жыцця
І свет чароўны развінула
Яго вярнуўшы з небыцця.

І ўсё наўкол загаманіла
І ручаінка, й сонны гай,
І ўсё ў прыродзе стала міла,
Нібы не верасень, а май.

І хоць шкада, што маю бачыць
Сябе з табою ў хвілі сна,
Але і гэта многа значыць,
Мая ты позняя вясна.

Ты мне паэзію вярнула
Не толькі вершаў, а жыцця
І свет чароўны развінула
Яго вярнуўшы з небыцця.

# СМЕХУ ВАРТА

## КЛЁЦАЧКА

Як цябе я любіў,
Нібы клёцкі з душамі!
Пра другіх пазабыў,
Толькі хлопаў вушамі,
Толькі рот разяваў,
Калі ты гаварыла
І няўцямна глядзеў,
Нібы мышка на мыла.
А як сэнсу дапяў,
Што за слоўцы ліліся,
Стала моташна мне,
Хоць ідзі пахмяліся.
Зразумеў я тады
У самотнай цішы –
Хоць і клёцачка ты,
Ды зусім без душы!

## ЖАРТОЎНАЕ

Хадзіў спакойны і паважны,
Як грак па першай баразне.
Меў клёк у целе досыць мажны
І не губляўся ў бядзе.

А вось сустрэлася такая –
Перавярнула ўсё ўверх дном.
І сэрца грудзі разрывае,
Як неба звон, вясенні гром.

Спакой наведваецца рэдка,
Стаў, як малёк, я мітуслівы:
Да бробнай клеткі недарэка,
Да неабдымнасці шчаслівы.

* * *

Як мне шкода цябе
І сябе адначасна –
Сівізна ў галаве,
Як зазімак, заўчасна.
Мы абое рабое,
Паласатыя мы,
Камякамі ў прыполе
Першай спробы бліны.
Мы абое рабое,
Хоць смяіся, хоць плач.
Дзікім рогатам коле
Нам сумленне пугач.
Я – навыварат сэрца,
Нібы мех – аглядзі!
Ты – памыяў вядзерыца –
Свой запал астудзі...
Я астыну, замерзнеш,
Нібы лужына ты,
І цяпло ўжо не вернеш,
Растапіць каб ільды.

* * *

І куды табе, сівізна,
Маладзёнаю захапляцца,
Ліха корчыць з сябе блазна.
Ты ж гадамі паспеў абчапляцца?!

Пэўна, маюць дарадцы рацыю,
І прытым – дакладна цвярозую.
Толькі ўсё ж не даходзяць натацыі,
Кроў, бы сок сакавіцкі, бярозаю

Захадзіла, ўскружыла голаў.
Ад сябе нікуды не дзецца:
Сэрца з клеткі, нібы той голуб,
За дзяўчо-чараўніцай рвецца.

Права іхняе: да мяне

Асуджальна і кпліва ставіцца...
І ў сівога каханне жыве,
Покуль сэрца яго не старыцца.

## ПРЫЗНАННЕ

Твая маці такая жанчына!
Рук не хопіць абняць!
Гэта важкая вельмі прычына
Цябе палка кахаць,
Бо ты крыніца майго натхнення
У вершах і прозе,
А як дзетак народзіш мне, Жэня,
Станеш... возерам.

## МЕТАМАРФОЗЫ

Як быў малы, яшчэ да школы,
Глядзеў я на дзяўчат дзябёлых,
А ў школе ўжо сваіх равесніц
Праводзіў да бацькоўскіх весніц.

Калі ж здаралася нагода
Бывала, шастаў і ў шкоду.
Цяпер гляджу на маладых
І цяжкі прыглушаю ўздых...

Баюся сліній падавіцца,
Але такому не адбыцца:
Унутры яшчэ працуюць вагі,
Я не пазбавіўся развагі.

Праходжу міма, не тужу,
Хаця пажадліва гляджу,
І разумею без прынукаў:
Не для мяне ўжо – для ўнукаў!

**АДГАДКА**

Па чым мы пазнаем вясну?
Па ашалелых крыках кошак,
Што пазбаўляюць людцаў сну.
Па буйным набуханні почак
На дрэвах і кустах таксама.
Па тым, як пільна сочаць дочак
Трывожныя, як птахі, мамы,
А донькі з скуры вылязаюць –
Прыгод вясновых ім карціць.
Спадніцы ў міні абразаюць
Аж да ядроных ягадзіц.
Ды грудзі наліліся сокам –
Так і вылазяць з дэкальтэ…
Як тут не зачапіцца вокам,
Калі натура вонкі прэ?!
Гэта ж прырода! Як з ёй ладзіць?
Яна заўжды сваё бярэ.
І ў хлопца моцанька вылазіць,
Аж джынсы крэпкія дзярэ!
Вясна! На шчэпку шчэпка лезе,
Што катурхаюцца ў вадзе.
І трэба кут зацішны недзе
Знайсці той пары, кагадзе –
Такая сіла неўтаймоўна,
Хоць ты ідзі крушыць карчы…
Таму і пруцца ў кустоўе
І ў белы дзень, і ўначы.
А вы іх не судзіце строга –
Вясна навокала шуміць!
Успомніце вы, дзеля Бога,
Ці ж не такімі мы былі?

* * *

Ідуць насустрач мне дзве лялькі,
Ну не ідзуць – плывуць, як чайкі,
А тая, што вышэйшая –
Лялькчэйшая!

**ПІЛЬНЫ**

Клён шырокай далонню ліста
Гладзіць бярозы высокія грудзі...
Стары дзядоўнік, пад ценю куста
Заўважыў: “ Раман, пэўна, будзе!”

Бывае, ў людзей так вядзецца
(Нямала я выпадкаў знаў), –
Адзін ледзьве што паслізнецца,
Другі ўжо гаворыць: “Упаў!”

* * *

Ён быў пятух абскубаны,
Ні аглабля, ні дышла...
І раптам ён стаў абраны!
Ой! Што з таго пеўня выйшла...
Паўлінам хвост распусціў.
Індык нібы, соплі развесіў.
Затакаваў, закружыў,
Нібыта падзею здзейсніў,
Хаця у галоўцы пустой
Ранейшы знаходзіўся гной.

# КАРАЦЕЛЬКІ

## АБЯЦАЛКІН

Абяцаў: “Зраблю, іначай
Праваліцца мне на месцы,
Век не бачыць мне ўдачы!..”
Каб збылось, што гаварыў
Ён зямлю б наскрозь прабіў.

## “СКЛЕРОЦІК”

Ён прымаў народ умела:
Суцяшаў і абяцаў,
А калі ішло да дзела –
Начыстую забываў.

## ХАЎРУСНІК

Ты – мне, а я – табе, –
Адну замову знаў…
Ды ўзяў усё сабе,
Што суд наканаваў.

## “ПРАВЕДНІК”

– Не буду болей гнуць спіну,
І мізінцам не варухну.
Падумаеш, знайшоўся пан! –
Начальніку ён агрызнуўся
І з жахам той жа міг прачнуўся.

## ЧЫСЦЮЛЯ

Абмывала суседскія косці,
Аблівала памыямі ў злосці,
У пух чарніла і ганьбіла іх,
Бо была найбрудней ад усіх.

***...І слова новымі радкамі***
***Лажыцца на паперу зноў***

**БУЛЬБОНІЯ**

Завуць рэспублікай Бульбоніяй
Мой край, а беларусаў – бульбашы,
Так крышку з гумарам, з іроніяй.
А я скажу вам ад душы,
Што краем гэтым ганаруся,
У рад з другімі смела стаўлю,
Заву ад сэрца Белай Руссю
І працаю, і песняй слаўлю.
Я згодзен, бульбы ў нас нямала.
Ёсць бульба, ёсць і да яе:
Гурок і крупы, хлеб і сала,
Ды, словам, усяго стае.
Растуць тэхнічныя культуры,
У нас і лён, і канапля,
А на Палессі нашы буры
Дасталі нафту. Ёсць свая!
А залежы калійнай солі?
Вось дзе кладоўка ўраджаю!
Цяпер, брат, ёсць свае шахцёры
У нашым  беларускім краі.
"Белазы", "МАЗы" – іх жа браце,
Ды яшчэ трактар "Беларус".
Кажу не ў мэтах выхваляцца –
Іх ведае не толькі Русь.
Праклалі волаты-машыны
Не у адной краіне свету
Працоўнай славы каляіны,
Вядомыя на ўсю планету!
Ды й што казаць, сябры мае,
Цяпер Бульбонія не тая.
Цвіце, будуецца ў красе,
Індустрыяльным стала краем!
І я ім шчыра ганаруся,
У рад з другімі смела стаўлю,

Заву ад сэрца Белай Руссю,
І працаю, і песняй слаўлю!

**ПОЛАЦКАМУ ПАГРАНАТРАДУ**

На старажытнай Полацкай зямлі
Вы рэй пачэсны з годнасцю ўзялі:
Аберагаць святыя рубяжы
На сённяшняй не ціхенькай мяжы.

І гэта вам прыстойна удаецца,
Ніякі злыдзень хітры не прарвецца
Ні праз Бігосава, ні цераз Урбаны:
Паўсюль "к нагцю" прыціснуты яны,
Бо вока пільнае і хваткая рука
У полацкага воя-пагранка!

Так ёсць, было і гэтак будзе,
Бо служаць тут такія людзі,
Якія могуць з годнасцю сказаць,
я гэта знаю:
– Служу Айчыне! Гонар маю!

* * *
Здаецца нам, што мы ўсё арлы,
Яшчэ імгненне – і расправім крылы,
І сіганём за хмарныя валы,
І дасягнуць да сонца хопіць сілы.
Ды толькі замахнешся ўзяць разгон
Ад грэшнае зямелькі адарвацца:
Разінеш дюбу – дух і сэрца вон.
Не ўзляцеў, а трэба прызямляцца…

Адкіньце інфантыльнасць найхутчэй.
Запомніце, што час плыве няспынна:
Не бойцесь дзён, не зводзіце начэй.
Працуйце колам вадзянога млына,
Каб ні на хвілю руху не спыняць

І думкам не даваць ані спакою.
Няхай суставы і мазгі скрыпяць –
Не пакідайце ім ні кропелькі спакою,
Каб да той хвілі, як матор адкажа
І вы ужо не зможаце ўзляцець.
Ніхто з сяброў, ці ворагаў не скажа:
– Вы не змаглі духоўнасці займець.

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

*Льву Аганаву, аўтару помніка А.С. Пушкіну*
*ў горадзе Навапалацку*

У час ад сотак льготна-вольны
Гуляў па гораду павольна.
Забрыў на вуліцу, здаецца,
Што Юбілейнаю завецца.
І за калена зачапіўся –
Як зваць мяне, ледзь не забыўся:
Калена Пушкіна было.
"Да нас цябе што прывяло?" –
Я запытаў ў майстра слова.
Ён адказаў: "Аганаў Лёва!
Ой, як жа ён мяне ляпіў:
Не еў, бывала, і не піў.
А як у гіпсе адліваў:
Не скрыю, братцы, – выпіваў.
Змачыць было патрэбна форму,
Не перасохла каб за норму.
Калі ў метале адлілі,
Пад ручкі белыя ўзялі
І прывязлі на гэта месца,
Дзе мне камфортна і не цесна.
Як пан, я тут вальготна сеў.
Банжур табе, Аганаў Леў!"

**НЕ РАЗВУЧЫСЯ**

Не па кілімах, па жарстве
Часцей прыходзіцца ступаць,
Ды сэрцам ты не ачарствей,
Не развучыся адчуваць
Чужыя боль і сіл нямогу –
Умей не толькі спагадаць,
Але й прыйсці на дапамогу.

**ПАЭТУ**

**А.П.М.**

Ну што, мой дружа, з юбілеем!
Мы слоў прыгожых не жалеем,
Каб ты і далей шчасна жыў,
Бо працай шчырай заслужыў
Сабе і гонар, і пашану
Ды і паставу паважану.
Табе гасподзь шырокім жэстам
Ўсяго сыпнуў, і ўсё да месца:
І розум быстры і дасціпны,
Характар роўны, нават сціплы,
І вока трапнае, як лазер,
Язык, зараджаны, бы маўзер
На слова вострае, як шпага,
І яго вымавіць адвага,
Над кім заўгодна падшуціць,
Сябе, пры тым, не абдзяліць…
Бываеш ты парой, як клірык,
Хаця душою палкі лірык.
Ды што тут многа гаварыць?
Каб і далей табе так жыць!

## НЕСПАКОЙ

Зразумейце мой неспакой,
Непаседлівасць зразумейце,
Бо бясконцых дарог прада мной
Вельмі многа на свеце.

Адчуваю я іх пад ступнёй,
Іх з суглінку, з пяску, з чарназёму...
І прыношу ў сэрцы з сабой
Неабдымнасці частку дадому.

## МАНАЛОГ ЭМІГРАНТА

З чым параўнаць шчымлівы сум
Па напрач страчанай Радзіме?
Па тым кутку, дзе нарадзілі,
З чым параўнаць шчымлівы сум?

Калі баліць ён, як калеку
Неіснуючая рука
Ад хвілі страты і да веку?
Калі баліць ён, як калеку
Неіснуючая рука?

І што ты зробіш з ім, самотнік,
Калі адзін ты на чужыне,
Нібыта голы ў ажыне?
То што ты зробіш з ім, самотнік?

Хто мудры дасць табе параду,
І хто пазбавіць дум-глыжоў,
Калі, як піць карціць дамоў?
Хто мудры дасць табе параду?

Напэўна, прыдзецца да веку
З адным жаданнем табе жыць –
Каб хоць прад сконам ды пабыць,
Дзе калісь стаў ты чалавекам.

Напэўна, прыдзецца да веку
З адным жаданнем табе жыць.

## ЗАДУМАЙСЯ

Нізкае неба налегла на дахі,
Дрэвы цяжарам долу прыгнула.
Грузна прыгорбіла шэрыя гмахі,
Далі смугой агарнула.

У камячок ўсё навокала сцялася,
Зябка дрыжыць – не сагрэцца ніяк,
Нібы з прыродай, з душой штосьці сталася:
Чорна навокал – яна як бяляк.

І не знаходзіць спакою і схованкі,
Выйсця не бачыць ні тут і нідзе.
Б'ецца ў пацёмках:
"Куды ж гэта "родненькі"
Пастар яе, як барана вядзе?"

Шляхам калдобістым і па дарозе
Ён абяцае ёй сонца і поўню…
Ёй прыпыніцца б на коўзкім парозе –
Словы прывабныя – сцежка на бойню!

## ЗАВЫСАКА ЎЗЛЯЦЕЎШАМУ

Жар-птушку ты схапіў за хвост
Ды закілзаў удачы гарбунка
І ломішся нахрапіста наўпрост…
А ці ўтрымае павады рука?
Ці не аслепіць зыркае пяро?
А ці не пойдзе кругам галава?
Глядзі, каб раптам дух не заняло,
Не той дарогай-сцежкай павяло –
Падпруга лопне, зваліцца сядло…

Назад хвіліну ты лунаў увысі
І апынуўся раптам у гразі,
Жар-птушка – у небе,
Гарбунок – у стэпе…
І не вярнуць іх, як ты не прасі.

* * *

Куды спяшаюцца шляхі?
За чым бягуць яны?
І міма верставой вяхі
І паўз лясной сцяны.
Бягуць на захад і ўсход
На поўнач і паўдзён.
Не лічаць хуткаплынных год
І мільгацення дзён.
Нясуць на выгнутых плячах
Наш паўсядзённы груз,
На легкавых і цягачах,
То як крышталь, то нібы друз.
Нясуць, бо лентамі ляглі,
А мы па іх ляцім…
Без іх здавён мы не маглі,
Без нас – быць мёртвым ім.

## СЁННЯШНІ СВЕТ

Свет супярэчлівы, як людзі,
Як ноч і дзень.
Вулканы рвуць зямныя грудзі –
Святло і цень.
Свет супярэчлівы ад роду
Мкне у бясконцасць.
Курочыць землятрус прыроду,
Ды не прыкончыць!
Свет супярэчлівы і вечны,
Зямная чаша,
Гайдае род наш чалавечы,

Калыска наша.
Дае цяпло, пітво і ежу –
Жывіце людзі!
Дабра і зла спазнайце межы –
Вам лепей будзе.
Свет супярэчлівы, вядома,
А людзі болей –
Не зладзяць мір у сваім доме
Па добрай волі.
То тут, то там наладзяць бойку
Страляюць, рэжуць...
А потым самі ж гэту больку
Гадамі лечаць.

* * *

Не пакідай мяне, развага
І вера шчырая ў людзей
Вы мне патрэбны, як адвага
Салдату, што на дзот ідзе.

**МНЕ ІХ ШКАДА**

Гляджу цікаўна на "іных",
Ці проста кажучы – не нашых.
На паранойяю "больных",
Нутром і мазгаўнёй лядашчых.

Ну, далібог, мне іх шкада!
Такіх амбітных і няўклюдных,
Што ахінею нам штодня
Нясуць нахабна і прылюдна.

І морду строяць тапаром,
Нам зіркачы – цьвікамі ў вочы!
Маняць і хлусяць напралом
І напралом, як танкі, крочаць.

А мне іх, далібог, шкада.

Яны труслівыя, як зайцы.
А абарона іх – мана –
Слабая, нібы кур'і яйцы.

Ну, што ім даць? Што з іх узяць?
Ў іх няма годнасці, сумлення…
Хай самі ўважліва глядзяць,
Як ад сябе знайсці збавенне.

Ну, далібог, мне іх шкада –
Яны не знойдуць тую сцежку –
Змарнеюць, шкодная брыда,
Ўсе пустазеллем на узмежку.

* * *

Чаму не радуе вясна
І сонца, што зямлю сагрэла?
Бо для мяне цяпер яна
Абвестка ў час, што не паспела.
І разрывае гул-набат
Нябёсаў звон сваёй жальбою,
Бо зноў ідзе на брата брат
Непрымірымаю вайною.
І брат, што сёння пры ўладзе,
Звярыную аскаліў морду,
Без правілаў ва ўласнай хаце
Агнём выпальвае свабоду.

* * *

Людцы мае, родныя!
Беларусы ці не беларусы?
Куды ж ваш падзеўся розум,
Дзе загубілі душы?

Чаму на сябе забылі,
Найменне сваё страцілі,
Калі вашу памяць забілі,
Аднялі ад роднай мацеры?

Якія вам трэба ўрокі,
Якія свядомасці муляры,
Каб верылі вы праroку,
Не пустабрэху-шулеру?

Каб зноўку розум прыдбалі,
Сталі самімі сабою
І хатку сваю будавалі,
Як продкі, адной талакою.

## ДЗЕ ВЫЙСЦЕ

Усё жыццё сваё памыляюся,
Спатыкаюся
Аб людзей, карчы, камяні.
Абнімі,
Абыйдзі, памылка чарговая,
Новая.
Хопіць мне сінякоў і шышак,
Нават лішак..
На чужых вучыцца пачну,
Адпачну.
Так хачу супакоіць сябе…
Выйсце дзе?

…Хто на іншых памылках вучыцца,
Болей мучыцца.

* * *

Перадрагі, крыўды, плёткі
Неадчэпны, як смала.
“Бы спагадлівая цётка” –
З жалем войкае душа.

І ты хочаш, ці не хочаш –
Розум сілай аслабеў:
Смешна ўсім – не захахочаш,

Твар пахмурна скамянеў.

І здаецца, што бязмэтна
Жыў, імкнуўся і кахаў…
Час бязважкі ды імпэтны
Міма-міма пралятаў.

Тут патрэбна сіла волі
Адмахнуцца ад нягод,
Як па цаліку, па полі,
Зубы сцяць – і напярод!

* * *

Флегматыкаў і экспансіўных,
На ростанях хуткіх гадоў
Губляем, падчас без прычыны,
Бы дробязь, найлепшых сяброў.

Губляем у кепіках дробных,
Якія ні гроша не варты,
І крыўды на шчырых і добрых
У сэрцах трымаем упарта,

І слоў, што чакаюць, не кажам,
І лішняга кроку не ступім,
А згубу тады і заўважым,
Калі не вярнуць, каго згубім.

Сябе дакараем і бэсцім,
Кляцьбою запознай клянём,
Калі прабачэння букецік
Кладзём на апошні іх дом.

**НУДА**

Падыдзе жоўтая нуда,
І на душы – як у пустыні,
Пагляд, бы восенню вада:

І сашклянее, і застыне.

За сэрца схопіць мёртвай хваткай
Адчаю едкі скарпіён.
І неба засланёна шапкай,
І бед прыпомніцца мільён.

І, божа крый, чыёй спагады!
Яна нібы на раны соль.
А месяц курчыцца рагаты,
Бы скамароха грае роль.

Тут ні сяброўка і ні сябар
Ратунку ў гэткі час не дасць –
Самому браць у рукі швабру
І вычышчаць нуду, як гразь.

## СВАЯ ЗАГАДКА

А зразумець сябе не проста:
Ў табе загадкавы сусвет.
І кожны дзень – ступені росту,
Шнурок нязведаных планет.

Тут адгадай, дзе будуць буры,
А на якой – біблейскі рай.
Жыві і ўсё на ўласнай скуры
Да дробнай кропелькі спазнай.

Адкрый планету за планетай,
Ныряй у гушчу з'яў-падзей
І не капці дарэмна свету –
Будзь чалавекам для людзей.

* * *

Куды табе, ўтрапёная душа,
У гэты час засмужаны імкнуцца?
Цябе трымаюць тут за галыша

І над памкненнямі нахабіста смяюцца.
Ты курчышся скуратам на агні
І мужна зносіш дзікія апёкі.
Так доўжыцца гадамі дзень пры дні,
А ты сваё… бо ты яшчэ не лёкай.
Трымайся і далей, цярпі-скрыпі,
За праўду-матку родную змагайся,
Пакуты невычэрпныя прымі,
А беларускай вернай заставайся.

* * *

Вершы ствараюцца сэрцам,
Сотні біенняў – слова,
А потым ужо на паперцы
Запісваюцца алоўкам.

Вершы не церпяць зацішша,
Радкі, як удары пульса.
Вершы той не напіша
У сэрцы чыім пуста.

Трэба, каб сэрца чуйна
Лавіла і беды, і шчасці,
Такому ў грудзях няўтульна,
Такое будзе пісаці.

© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2012
© PDF: Камунікат.org, 2012

## ЗМЕСТ

**СМЕХУ ВАРТА**



**КАРАЦЕЛЬКІ**



***..І слова новымі радкамі Лажыцца на паперу зноў***

***Юрась Касцюк***

**ПАТ**

***Кніга вершаў***

***Складальнік***
**Галіна Сташкевіч**

***Аўтарскае рэдагаванне***

***2012 год***